*Гэтым разам мы прапануем вашай увазе артыкул (у скароце) і адно паведамленне з часопіса "Царкоўны Пасланец" —друкаванага органа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, з якім мы ўжо знаёмілі чытачоў у 9-ым нумары ТМ. Рэдакцыя "ЦП" даслала нам непасрэдна свой апошні нумар, за што ёй шчыра дзякуем. Сярод вельмі цікавых і карысных для беларускага чытача матэрыялаў, мы абралі і падрыхтавалі для сёньняшняй публікацыі скарочаныя (з-за недахопу месца) нататкі-роздум аб шматпашыранай у нас і, на думку ТМ, вельмі небяспечнай зьяве.*

*Ніжэй за вытрымкі з артыкула падаем інфармацыйнае паведамленне БАПЦ.*

*Ад сябе нагадваем краёвы адрас "Царкоўнага Пасланца":*

***220005 Мінск-5, а/с 185, "ЦП"***

# НАТАТКІ АБ ЗЬЯВЕ "ПРАВАСЛАЎНАГА АТЭІЗМУ"

Праваслаўны атэізм, тэрмін, якім гэтак трапна акрэсьліў сябе чалавек, што сёньня займае становішча прэзыдэнта Беларусі — зьява нятолькі пост-савецкае Беларусі. Перш за ўсё гэта адлюстраваньне дагматычнае замкнёнасьці й ангажаванасьці ў цывільныя справы расейскага праваслаўя — прэтэндэнта на "гаспадара душаў" сёньняшняе Беларусі. Гэтыя фактары ў сваю чаргу спарадзілі ў агульнаграмадзкай сьведамасьці элемэнты фанатызму й неталерантнасьці.

Парадаксальна, што сумуюць па савецкіх часох і падтрымліваюць рэфэрэндумы аб собскім скасаваньні як незалежнае нацыі людзі, якія прэтэндуюць называцца праваслаўнымі хрысьціянамі ды яшчэ й патрыётамі.

Так званае афіцыйнае праваслаўе на Беларусі, як частка Царквы суседняга народу, ёсьць менавіта расейскім фэномэнам, што сфармаваўся як ваяўнічае веравызнаньне сфакусаванае пераважна на захаваньні абрадных традыцыяў і варожае да кожнае праявы рэфармаваньня, або зьменаў у адпаведнасьці йзь зьменамі навакольнага грамадзтва.

...У савецкія часы на Беларусі праваслаўная рэлігійна-этычная традыцыя перарвалася й у часавым, і прасторавым аспэкце, г.зн., што адыход ад рэлігіі шэрагу пакаленьняў спыніў перадачу традыцыі праз сям'ю, а калектывізацыя й міграцыя сялянаў у гарады перарвала трываньне традыцыі на вёсцы.

Таму рэлігійны ўздым канца 80-х —пачатку 90-х гадоў адбываўся фактычна па штучных, а часам выпадковых парадыгмах, якія ўзьнікалі праз асьвятленьне рэлігійных пытаньняў у сродках масавай інфармацыі, зьмены ў стаўленьні да рэлігіі з боку савецкіх уладаў, а таксама праз спарадычнае наведваньне цэркваў. Не малы ўплыў мелі й зьявы калектыўнае сьведамасьці, калі ў выніку шэрагу фактараў хрысьціянства зрабілася "модным", стала часткаю сэкулярнае штодзённае культуры... Так праваслаўе РПЦ і атэістычная штодзённая савецкая культура ўступілі ў сымбіёз, суіснаваньне. Менавіта гэткі сымбіёз спарадзіў зьяву праваслаўнага атэізму.

...Пры гэтым трэба адзначыць, што яшчэ да савецкіх часоў собска беларуская праваслаўная традыцыя была аслабленая й размытая ўвядзеньнем вуніі, і больш



таго, пры скасаваньні вуніі была цалком замененая іншай традыцыяй, праваслаўем расейскага гатунку.

Адпаведна трансфармаваная "вера" ня прыйнялася глыбока, ня здолела ажно да сёньняшняга дня канчаткова выцісьнуць паганскія элемэнты з калектыўнае рэлігійнае сьведамасьці. Сьвятар гэтае веры, наўсуперак ягонаму папулярнаму найменьню "бацюшка", ніколі ня быў ані бацькам для вернікаў, ані дараднікам... Часта рэлігійнасьць успрыймалася вернікамі як сума культавых маніпуляцыяў, ахвяраваньняў сьвятыні й святару ўзамен за атрыманьне жыццёвых і па-за жыцьцёвых палёгкаў. За вылучэньнем абавязковае споведзі, людзі звычайна не дзялілі йзь сьвятаром іхныя беды, і ня шукалі ад яго суцяшэньня іхнага смутку й жальбы... Гэта значыць, што духовае лідарства ніколі ня было выразным, і калі йснавала наагул, то мела лякальны характар.

...Трымаючыся "старыны", РПЦ, каб захаваць ейны традыцыйны статус, ускладае большую надзею на дзяржаўныя адміністрацыйныя сродкі, як на царкоўныя — пастырскія й місыянэрскія. Прыкладам гэтага можна назваць хоць бы новы закон Расейскае фэдэрацыі аб рэлігійных арганізацыях, што абмяжоўвае правы іншых як РПЦ хрысьціянскіх канфэсыяў, а таксама пастанову Вярхоўнага савету Беларусі зь ліпеня 1995 г. аб наданьні РПЦ спэцыяльных палёгкаў.

...У новай сітуацыі... асобны індывід апынуўся ў царкве, не абцяжарыўшы сябе рэфлексыяй наконт таго, што менавіта ён тут робіць і чаго спадзяецца ад царквы. Інтымная рэлігійная веда, спасьцігненьне Бога стаяць на другім пляне за тэхнічнымі ведамі аб тым, калі трэба укленчыць на адправе, у які бок хрысьціцца й г.д.

...Парадаксальна спалучылася неспалучальнае, так як у расейскай палітыцы радыкалізм фашыстоўскага кшталту спалучыўся з камуністычнай фразэалёгіяй, і гэта адразу было перайнятае посткамуністычнымі структурамі на Беларусі. РПЦ пераважна падтрымлівае сілы, што ўслаўляюць савецкія часы, калі гэтая самая РПЦ перасьледавалася. Трэба спадзявацца, што будучыня Беларусі зьвязаная нятолькі з гэтай царквою.

У кожным разе беларускія людзі маюць права на непасрэднае інфармаваньне аб Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, а гэтая Царква, як найбольш натуральная для Беларусі, глыбока зьвязаная з гэтай зямлёю й ейнай гісторыяй, мае права на свабодную дзейнасьць і ўсталяваньне Праваслаўя без фанатызму, нецярплівасьці, палітызаванасьці, і бяз гульняў з атэізмам.

**В.ЗАЙКА.**

## ПА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖНАГА ДРУКУ



# НАВУКА НА СЬВЯТАРОЎ

З палітычных ды павязаных зь імі матэрыяльных прычынаў БАПЦ сёньня ня мае свае вучэльні для падрыхтоўкі сьвятароў, безь якіх узнаўленьне роднае Царквы на Бацькаўшчыне немагчымае.

Дзякуючы прыязнай увазе Кіяўскага Патрыярхату УПЦ нядаўна зьявілася магчымасьць атрымаць дапамогу ў гэтай патрэбе пасылаючы некалькі кандыдатаў да сьвятарскае службы на навуку ў Духоўную Вучэльню на Украіне.

Прадбачаны працяг навукі ў ёй 2 гады, у вынятковых выпадках ён можа быць прысьпешаны.

Каб быць прыйнятымі кандыдаты павінны ведаць асновы навукі Праваслаўнае Веры.

Дакладнейшыя інфармацыі ў гэтай справе можна атрымаць з Кансысторыі БАПЦ, або Рэдакцыі "Царкоўнага Пасланца":

**BAOC Consistory**
**P.O. Box 5982, Somerset, N.J. 08875-5982, USA**
**Tel. 1 732 873 8026**


**НАУЧНО-ПРОИЗВОДСТВЕННОЕ ПРЕДПРИЯТИЕ "БЕЛКОТЛОПРОМ"**

**ПРЕДЛАГАЕТ:**

- современные автоматизированные стальные водогрейные и паровые **КОТЛЫ**, модульные **КОТЕЛЬНЫЕ** для отопления объектов бытового и производственного назначения любой производительности;
- **РАЗРАБОТКУ** проектной документации;
- **МОНТАЖ** и реконструкцию котельных;
- **НАЛАДКУ** и пуск котельных.

Тел./факс (0222) 25-58-77.


**Магілёўская гарадская асацыяцыя КС — заснавальнік газэты ТЫДНЁВІК, шматлікія сябры сям'і выказваюць шчырае спачуванне Ніне, Генаддзю і Віктару Суднікам у сувязі са смерцю пасля цяжкай хваробы іх маці, цешчы і бабулі Лалі Ільгамаўны Аляксеевай (Аміньевай).**

## Тэст на эрудыцыю

### Адказы

**Гісторыя**

1. зь кіпарысу
2. войскам ВКЛ на чале з Альгердам у бітве на Сініх Водах
3. Полацак
4. Грунвальд
5. БНФ
6. 6-га жніўня 1517-га года
7. у Бярэсьці, 1596-ый год
8. беларус Казімір Семяновіч, у 1615-м годзе, у кнізе "Вялікае мастацтва артылерыі"
9. каля вёскі Кірхгольм (сучасная Латвія), 27-га верасьня 1605-га года
10. беларус Ян Карл Хадкевіч

## Новы разьдзел: Музыка

1. Назавіце хаця б трох сусьветна вядомых кампазытараў якія паходзяць зь Беларусі
2. Адзін зь бясспрэчных лідэраў савецкае эстрады 70-х, ансамбаль зь Беларусі
3. Хто ў рок-гурце "NRM" саліст?
4. Хто выконвае песьню "Прэзыдэнт, ідзі дамоў"?
5. Папулярны ў Эўропе беларускі фольк-гурт
6. Рок-гурт 80-х зь якога выйшлі "Мроя", "Крама" і "Уліс"
7. Хто аўтар словаў лепшай песьні '94 "Ave Maria"?
8. Беларускі бард, які выступаў на шматтысячных менскіх мітынгах, аўтар песьняў "Мне краеў чужых ня трэба", "Фронт"...
9. Які старадаўні беларускі кампазытар і драматург напісаў лібрэта да опэры "Агатка, альбо прыезд пана"?
10. Хто аўтар песьні "Мы выйдзем шчыльнымі радамі"?


Рэдактар Генадзь СУДНІК






**Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".**

***Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.***

**Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



**ТЭЛЕФОНЫ:** 31-04-15, 22-97-82

**Газета набрана і надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 22. Тыраж 2100 асобнікаў.**